БЕЛАРУСЬ — ГЭТА СЬВЯТОЕ

# МАЛАДЫ ФРОНТ

№ 2, ЛЮТЫ, 1999. Выдаецца маладзёвай арганізацыяй МАЛАДЫ ФРОНТ.



ШЛЯХ

**Сёньня самая галоўная стаўка ўсяе Беларусі – гэта маладыя людзі. Менавіта нашая моладзь – самая актыўная й масавая база падтрымкі нацыянальнага руху; і іншай няма. Найбольш важная дэталь, якую хоча ведаць моладзь – ня тое, хто й як разьбярэцца з рэжымам Лукашэнкі, а тое, што будзе пасьля.**

# ШТО БУДЗЕ ПАСЬЛЯ

МОЛАДЗЬ гатовая падтрымаць будучыя рэформы, але дакладна ня ведае, што гэта за рэформы, яна пакуль масава ня ў курсе, як мы зьбіраемся дзейнічаць і якая нам спатрэбіцца дапамога. Таму найважнейшая задача на цяпер – рыхтавацца да пераменаў, каб не паўтарыць лёс Расеі 17 жніўня 1998г. і лёсы тамтэйшых рэфарматараў.

МФ ужо зараз ставарае каманды, гатовыя пасьля падзеньня рэжыму інфармацыйна й арганізацыйна, рэкламова падтрымаць рэформы, якія распачнуцца. МФ гуртуе юных спэцыялістаў у тэхналёгіях і Інтэрнэце, шоў і канцэртах, СМІ, эканоміцы, замежных кантактах. А такіх людзей нам спатрэбіцца цэлая армія.

Паверце, рэжым Лукашэнкі – ня самая галоўная перашкода на шляху да сапраўднай Беларусі. І Расея таксама ня самая цяжкая з усіх праблемаў. Асноўная праблема, галоўнае пытаньне – у нас саміх. Калі мы здолеем узяць сябе ў рукі, стаць свабоднымі, дэмакратамі ў сабе, унутры сваёй арганізацыі, тады мы будзем непераможнымі. Цяперашнія нашыя азлобленасьць, пэсымізм, убойная панылась – наступствы празьмернае нянавісьці. Апазыцыя, якая змагаецца з-за нянавісьці да рэжыму – гэта кепская апазыцыя. Заўтра яна будзе змагацца сама з сабой. Таму нашай мэтай павінны стаць не дэстабілізацыя становішча, не сацыяльны выбух, а рух **ЗА БЕЛАРУСЬ!**

Сёньня для нас, для МФ, ёсьць тры прынцыповыя моманты ісьціны.



Моманты ісьціны Маладога Фронту

Першы. У тэорыі самазахаваньня любога чалавека ці нацыі ёсьць ключавы псыхалягічны панятак: "выжыць". Калі галоўны крык душы: "Яне хачу паміраць!", то біялягічны інстынкт самазахаваньня не вытрымлівае доўгатэрміновае напругі й з трэскам ламаецца. У выніку – здрада самому сабе, здача і сьмерць. Калі твая энэргія – нянавісьць да ворага, то ты, у прынцыпе, можаш яшчэ пратрымацца, але – нядоўга. Адзіная магчымасьць выжыць – гэта мець жалезны дэвіз: "Мне ёсьць дзеля чаго жыць", "Я ведаю, дзеля чаго мне трэба выжыць", "Я павінны жыць, каб выканаць сваю місію на гэтым сьвеце". І тады псыхалягічная моц узрастае неймаверна; чалавек або нацыя пачынаюць тварыць цуды.

Трэба ўпэўнена, проста, гучна сказаць сабе гэтыя словы. Беларусі ёсьць дзеля чаго жыць: дзеля трыюмфу нацыі. Дзеля беларускага эканамічнага цуду. Дзеля духовае імпэрыі ва Усходняй Эўропе.

"Гінем!", "Мама!", "Мы ня хочам памерці!", істошны рык: "Луку на муку!", "Снайпэр!" – гэта заведамы пройгрыш. Тыя, хто карыстаецца тэрміналёгіяй боязі, нянавісьці – слабакі. Гісторыя ломіць ім хрыбты

Працяг на стар. 7

ІДЗЯ

# ДЭМАКРАТЫЯ — ЛІХА?

## *Як магчыма ўдасканаліць дзейнасьць МФ*

**Трывалая прынцыповасьць, інтэлектуальнасьць, актыўнасьць сяброў Маладога Фронту й наш рэйтынг, які сярод моладзі сягае да 25%, ставяць МФ па-за канкурэнцыяй. Нашыя супернікі на арэне беларускае маладзёвае палітыкі маюць добрыя пэрспэктывы – далучыцца й заняць годнае месца ў Маладым Фронце, бо да самастойнага палёту ім непапраўна далёка.**

АЛЕ ці ўсё так добра ў наймагутнейшай маладзёвай арганізацыі? Ці ня ёсьць відавочнымі нашыя ўнутраныя заганы? Ініцыятывы з шэрагаў часьцяком не падтрымліваюцца ці марнуюцца кіраўніцтвам; самаадданая праца энтузіястаў узнагароджваецца хіба толькі вуснаю падзякаю, у той час як безадказнасьць застаецца непакаранаю. Дзе ж корань гэтых зьяваў? Адказ просты ды, на першы погляд, дзіўнаваты: дэмакратыя. Ці, дакладней, дэмакратычнасьць ажно да анархіі, што пануе ў нашых шэрагах, вядзе да незарганізаванасьці структуры.

### ТРЭБА ПАТЛУМАЧЫЦЬ

Дэмакратыя прыймальная ў маштабе дзяржавы; тады ўлады павінны абараняць чалавечыя памкненьні кожнага. Але калі памкненьні вялікае групы грамадзянаў дзяржава не абараняе, людзі мусяць гуртавацца й дзеля жаданага эфэкту адмовіцца ўнутры арганізацыі ад некаторых сваіх правоў.

Гэта як калі прыходзіш на працу ў прыстойную фірму, даводзіцца ахвяраваць уласным неад'емным правам напівацца да чорцікаў.

### А ЯК ЖА ТУСОЎКА?

Згодны, нязмушаная атмасфэра тусоўкі стымулюе творчы пошук. Ніхто не аддае камандаў, няма перад кім прагінацца, усе роўныя. Прыйшоў у чацьвер на Ўправу, паслухаў Севярынца, натхніўся, падзяліўся думкамі з прыяцелямі і пайшоў. Глядзіш, і нейкая свая ідэя нарадзілася. Але як потым гэтую ідэю ажыцьцявіць?

### СЕВЯРЫНЕЦ – СТАРАЦЕЛЬ

Прыйсьці ў наступны чацьвер і паведаміць таму ж Севярынцу. Тады ён становіцца старацелем, які вымывае з пароды-натоўпу залатыя крупінкі-ідэі, крупінкі-лідэры, крупінкі-таленты. Прыгожа? Але сытуацыя гэткая, што ў Севярынцавым сіце на жменьку пароды даводзіцца кіляграм самародкаў памерам зь вінаградзіну. То бок не адолее Павал весьці 200-300 праектаў адначасова.

### МОЖА ГЕРАРХІЯ?

Тры гады таму, калі толькі дэмабілізаваўся з войска, я б параіў у якасьці выйсця стварыць скразную герархічную сыстэму з жорсткім падпарадкаваньнем. Уяўляю, як шпарка ў другі чацьвер зьбегалі б ад нас тыя, хто ў першы ня ўгледзелі нічога падазронага, калі даверліва падпісваліся выканаць загад галоўнага памочніка намесьніка старшыні. Герархія гэтаксама дэструктыўная для арганізацыі як і дэмакратыя.

### МАБІЛЬНЫЯ ГРУПЫ

Адна задача – адна група. Вось пераможная мадэль. Узьнікае ідэя, складаецца плян, аўтар ідэі зьбірае пад плян 3-5 чалавек-аднадумцаў і яны разам працуюць. Аніякае герархічнае залежнасьці ад кіраўніцтва МФ, ніякіх перашкодаў празь непаразуменьне (бо кожны з уласнага жаданьня выбраў сабе функцыі паводле пляну), прыняцьцё рашэньняў кіраўніком групы без галасаваньня, пад уласную адказнасьць і сотня іншых перавагаў, якія ўжо бачныя з прыкладу працы Кантактавае групы, што ўтвораная 24 сьнежня летась.

### КАНТАКТАВАЯ ГРУПА

Шэсьць чалавек: юрыст, перакладнік, кампутаровец, спартовец, сакратар і мэнэджэр згуртаваліся каб рэпрэзэнтаваць Малады Фронт уплывовым асобам і арганізацыям за мяжою і ў краіне, наладжваць новыя сувязі. Прычым, робіцца гэта прафэсійна й арганізавана. У кожнага свае функцыі.

Што ўжо за месяц існаваньня зроблена кантактаваю групаю?

Першае: устаноўлены кантакт з Міхалам Чыгіром. Ён мае вялікія шанцы стаць прэзыдэнтам краіны, таму мы вызначаемся адносна гэтай асобы й задаем яму канкрэтныя пытаньні.

Другое: зварот для наладжваньня сувязяў да расейскага "Правого Дела" і Анатолія Чубайса ў прыватнасьці. Гэта ці не адзіная сіла з Усходу, што, хаця і праз вычварныя аргумэнты, але адстойвае незалежнасьць Беларусі. Неразумна сядзець і чакаць ад расейцаў лепшага. Можна пашукаць шляхі супрацоўніцтва.

Трэцяе: скіраваная просьба па дапамогу ў авалоданьні тэхналёгіямі выбараў і передвыбарчае барацьбы каардынатару праектаў у Эўропе й Азіі Міжнароднага Фонду Выбарчых Сыстэмаў Джэфры Карлсану (ягоны офіс у Маскве).

Ня сёлета, дык праз год, але дэмакратычныя выбары розных узроўняў у Беларусі адбудуцца. І перамогуць у іх навучаныя. Таму мы павінны адукоўвацца.

### АСОБЫ

Перакладніца Кантактавай групы – Каця Кудрыцкая – валодае ангельскаю ды нямецкаю мовамі. Спартовец – Уладзь Антонаў – студэнт БДТУ, футбаліст. Кампутаровец – Ільлюк Петрушэнка – студэнт-эканаміст. З уласнае ініцыятывы займаецца перакладам праграмных прадуктаў Microsoft на беларускую мову. Юрыст – Лідзія Патачыц – мае выдатныя веды ў беларускім і замежным заканадаўстве. Сакратар кантактавае групы – Яўгіньня Парашчанка – паэтка, сталая аўтарка Нашае Нівы. Мэнэджэр кантактавай групы – Вадзім Карцаў. Я каардыную працу ўсёй групы, узгадняю захады групы з кіраўніцтвам МФ і БНФ.

**Вадзім КАРЦАЎ**



ВАНДРОЎКА

# СКРЫЖАВАНЬНЕ МЕЖАЎ

**Знаёміліся ўсе ў цягніку, што глыбокай ноччу пакінуў Менск і бадзёра скіраваўся ў бок заходняе мяжы Беларусі, паснулай у салодкім прадчуваньні калядных сьвятаў. Рэпрэзэнтаваць нашую краіну на Першай сустрэчы моладзі Польшчы, Беларусі й Украіны запрошаныя былі сябры ЗБС, Маладога Фронту, Вясны-96; асабіста – Валерка Булгакаў, Андрэй Дынько, Алесь Стральцоў і іншыя – усяго выходзіла чалавек 15. Некаторыя, канешне, былі знаёмыя й раней, начутыя адзін аб адным, і гэтак далей: хоць кола менскіх адраджэнцаў і нельга назваць цесным, але ж – "рыбак рыбака..." Размовы "за жыцьцё" пад піва ці – хто што абірае – гарбату цягнуліся да самага ранку, да Берасьця, да былое мяжы сучаснай Расейскай імпэрыі.**

ПРАЦЯГВАЛАСЯ знаёмства і ў велічэзнай – на гадзіну – чарзе ў залю памежнага кантролю, патрапіўшы ў якую мы панесьлі, урэшце, першыя страты – у Валянціна Стэфановіча (Вясна-96) сканфіскавалі "Права на волю" – 20 асобнікаў (на ўсю мытню хопіць). Наступная заля – пашпартны кантроль, і мы ў апошні момант пасьпяваем на цягнік, які ўжо адыходзіць. Памежная зона, Буг... Мы ў Польшчы.

Гутарка ў чаканьні польскіх мытнікаў (якія дойдуць да нас ня хутка – асноўны "кантынгент" нашага цягніка – дробныя кантрабандысты) паступова пераходзіць у размову добрых старых сяброў. За вакном ходзіць па пэроне арганізатар сустрэчы зь беларускага боку, кіраўнік ЗБС Алесь Міхалевіч.

Нішто ня вечнае – у тым ліку й нашае сядзеньне ў цягніку. Алесь не пасьпявае зьмерзнуць як сьлед, як мы пачынаем выходзіць з вагонаў. Ён вядзе нас да аўтобуса. Кіроўца – выкшталцоны, вусаты польскі пан – ветліва, зь непаўторнымі годнасьцю й шармам, прапануе каву, гарбату, чакаляту. У аўтобусе цёпла, свабодна – гэта так проста, гэта так добра, што бальшыня з нас адразу засынае, а памежныя турботы адыходзяць і губляюцца дзесь сярод старых і ня вельмі ўспамінаў.




### СТАРЫ ХРАМ

Дарога на Ўладаву з Тэрэспаля (дарэчы, старажытны беларускі назоў гэтага мястэчка – Цераспольле) цягнецца на поўдзень уздоўж Бугу, і недзе пасярэдзіне гэтага шляху мы робім прыпынак. Паселішча мае назву Кастамлоты. Навокал – драўляныя хаты, старыя платы – тыповая вёска, якіх шмат на абодвух берагох Бугу. (На заходнім, праўда, іх становіцца ўсё меней). Акрамя незвычайнае назвы, Кастамлоты маюць яшчэ адну адметнасьць, а менавіта: тут знаходзіцца й функцыянуе грэка-каталіцкая вуніяцкая царква сьв. Мікіты. Храм цікавы тым, што набажэнствы тут адбываюцца ў срогай адпаведнасьці з традыцыямі першапачатковага ўніяцтва, якія захаваліся тут з XVII стагодзьдзя – царква была пабудаваная ў 1631 годзе. З таго часу драўляны будынак ніколі не разбураўся, толькі рамантаваўся. Ёсьць тут і абраз сьв. Мікіты, які быў падараваны у тым жа 1631 годзе царкве сялянкай Фядорай. За час свайго існаваньня царква была (пад Расеяй) праваслаўным храмам, але вярнулася у сваё спрадвечнае ўлоньне.

Усе гэтыя, і шматлікія іншыя рэчы з гісторыі й сучаснага жыцьця царквы, нам распавёў сьвятар. Напрыканцы сустрэчы ён прэзэнтаваў усім нам " Малітоўнікі для беларусаў", што былі выдадзеныя на зыходзе II Сусьветнае вайны ў Рыме на беларускай мове; каляровыя паштоўкі з выявамі храма, абразоў.




Невядома, ці ёсьць гэтая вёска небясьпечнай для костак і іншых частак цела, але для душы, асабліва беларускай, гэта, насамрэч, месца сьветлае, вельмі прыцягальнае. Наведваньне храма надала асаблівы сэнс сьвяточнасьці Калядаў, якія набліжаліся.

(далей будзе)

**Аляксей ЯНУКЕВІЧ**

КРОНІКА

# ПАД АКУПАЦЫЯЙ

### 19 СТУДЗЕНЯ НЯ ВЫЙШЛА ПЕРАДАЧА "НА ЎСЮ МОЦ"

"На ўсю моц" выходзіла са жніўня 1998 г. на хвалях "Маладзёжнага радыё" два разы на месяц і за паўгады існаваньня набыла сваю публіку. Інтэрвію зь беларускімі рок-музыкамі, агляд музычнае прэсы, анатацыі на новыя паступленьні аўдыёкасэтаў і CD, конкурсы і г. д. – усё гэта было ў перадачы. Да таго ж, у апошнюю сераду выходзіў дадатак "Хіт-ліст. Беларускі хіт-парад". Адным словам, беларуская музыка была асновай праграмы.

Так было да канца 1998 г., пакуль рэдактар маладзёвых праграмаў не прапанаваў Сяргею Бялевічу, вядучаму перадачы "На ўсю моц", зрабіць яе штотыднёвай. Першы экспэрымэнт быў праведзены 12 студзеня 1999 г. (у эфіры выступалі "Крыві") – і быў удалым.

Але раптам, 19 студзеня 1999 г., непасрэдна перад эфірам, С. Бялевіч праз тэлефон даведаўся аб зьняцьці перадачы з эфіру. Шэф "маладзёжкі" патлумачыў закрыцьцё перадачы тым, што кіраўніку 1-й праграмы радыё Ядранцаву не спадабалася музыка "аўтэнтык" у сучасным выкананьні. Ніякіх афіцыйных дакумэнтаў з тлумачэньнямі няма.

Зараз вядучы шукае іншыя магчымасьці існаваньня папулярнай перадачы.

**БМА**

### МОЦ СУПРАЦЬ РОЗУМУ?

Як назваць чалавека, які б'е дзяўчыну? Як назваць яго, калі яму 40, а ёй 16 год? Нарэшце, калі ён, гэты (чалавекам назваць яго нельга, таму вырашайце самі, што лепей: злодзей, вылюдак бяз сэрца... і г. д.), — **мент?**

Зьбілі маю добрую знаемую Мару за тое, што яна размаўляе па-беларуску. Цікава, чаму амэрыканцаў не чапаюць, немцаў — таксама, а чалавека, які размаўляе на мове сваіх дзядоў, б'е па твары нейкі звар'яцелы міліцыянт. Спачатку зьбівалі маладых хлапцоў-патрыётаў на мітынгах. Зараз б'юць дзяўчынак. А заўтра будуць катаваць малых дзяцей?

Нашая бяда: шматлікія ліхадзействы не караюцца, і гэта разьвязвае рукі для іншых больш цяжкіх злачынстваў. Я разумею – нельга абагульняць. Аднак, усё часцей і часцей бачу злачынствы (альбо вынікі), зробленыя рукамі прадстаўнікоў ворганаў аховы правапарадку.

Тыя, хто маюць зараз уладу, вы можаце нас біць, кідаць за краты, але ўсім усе роўна не закрыеце раты, **чуеце**? Усіх не пакідаеце ў турмы, усіх не заб'еце. Застануцца нашыя браты, сябры, бацькі – яны будуць размаўляць і дамагацца нашае свабоды!..

Трымайся, Мара! Трымайцеся, хто за кратамі, ці зьбіты! Беларусь за вас! Верце ў гэта! У вас ёсьць сапраўдная ідэя!

**Маша КАЛЕСЬНІКАВА**

МЕРКАВАНЬНЕ

# ПАПІШУЦЬ УСІХ...

## *З 16-га лютага распачынаецца перапіс насельніцтва краіны*

**У варунках дыктатуры перапіс – рэч палітычная. Задаючы грамадзянам пытаньні, рэжым робіць усё магчымае, абы атрымаць пажаданы, прыемны для сябе адказ, ды выкарыстаць яго ў прапагандысцкіх мэтах. Сёньняшня сытуацыя надта падобная да лукашэнкаўскага "рэфэрэндуму" '95. Акупанты рыхтуюцца да тысяча першай спробы даказаць, што нас (беларусаў) няма.**

Адмыслова для перапісу за тыдзень да гэтай адказнай акцыі студэнтаў масава здымалі з заняткаў і перакваліфікоўвалі ў "перапісчыкаў". Бедныя дзяўчаты й хлопцы дагэтуль ня ведаюць, ці то радавацца ім з тае прычыны, што можна сачкаваць паўмесяцы, ці то плакаць – паспрабуй, абыйдзі ўсе кватэры! Ды паўсюль адно й тое ж: пол, узрост, сямейнае становішча, мова...

Якраз наконт мовы незалежная прэса пісала больш за ўсё. Па-першае, бальшыня перапісных дакумэнтаў складзеная па-расейску, нібы падрыхтаваныя яны для мяшканцаў Разані ці Яраслаўля. Прыкол нумар два – у надта ж мудрых пытаньнях пра мову, якой ты размаўляеш дома й "другую, якой добра валодаеш". Пытаньні з намёкам. І гэта добра разумее ня толькі ТБМ. Газэта беларускіх палякаў "Głos znad Niemna" ў адным з апошніх нумароў піша: "Якраз тут хаваецца пастка. Беларусь – наш агульны зь беларусамі дом, у якім мы жывем зь дзядоў-прадзедаў. Кожны з нас разумее й размаўляе па-польску й па-беларуску. Ці не павінныя мы як сумленныя грамадзяне Беларусі падтрымаць беларусаў? Падтрымаць незалежнасьць Беларусі й лічыць, што другой нашай мовай ёсьць мова беларуская?.."

Беларусам жа, я раіў бы на пытаньне пра "другую мову" адказваць: ангельская, нямецкая, польская й г.д. (канешне, калі валодаеш).

Калі казаць пра мову, на якой размаўляюць дома, дык у мяне ё падазрэньне, што шмат хто з чыстым сэрцам адкажа: "на рускім языку"... Хаця, супакойвае тое, што сярод перапісчыкаў будзе шмат студэнтаў, для бальшыні зь якіх Беларусь – гэта сваё.

**С. А-СКІ.**

ЭЎРОПА

# ДЗЯРЖАВЫ-СЯБРЫ ЭЎРАПЕЙСКАГА ЗЬВЯЗУ

| КРАІНА | НАСЕЛЬНІЦТВА (тыс. чал.) | ПЛОШЧА (тыс. км²) |
|---|---|---|
| **Аўстрыя** | **8040** | **83,9** |
| **Бэльгія** | **10131** | **30,5** |
| **Вялікая Брытанія** | **58276** | **244,1** |
| **Гішпанія** | **39170** | **504,8** |
| **Грэцыя** | **10442** | **132** |
| **Данія** | **5216** | **43,1** |
| **Ірляндыя** | **3577** | **70** |
| **Італія** | **57248** | **301,3** |
| **Люксэмбург** | **407** | **2,6** |
| **Нідэрлянды** | **15423** | **41,9** |
| **Нямеччына** | **81553** | **356,7** |
| **Партугалія** | **9912** | **92** |
| **Фінляндыя** | **5099** | **338,1** |
| **Швэцыя** | **8816** | **450** |

### ШТО ТАКОЕ ЭЎРАПЕЙСКІ ЗЬВЯЗ?

Эўрапейскі Зьвяз – гэта новы тып саюзу паміж дзяржавамі. Галоўнаю задачай ЭЗ ёсьць арганізацыя супрацоўніцтва паміж краінамі-ўдзельнікамі й іхнымі жыхарамі.

Найважнейшыя мэты Зьвязу: гарантаваньне бясьпекі, эканамічнага й грамадзкага разьвіцьця, а таксама абарона свабодаў, правоў і інтарэсаў грамадзянаў. Эўрапейскі Зьвяз – гэта гарантыя дэмакратыі, правоў чалавека, прыватнай уласнасьці й вольнага рынку.

### СЫМБОЛІКА ЭЗ

Гімн Эўрапейскага Зьвязу – "Ода да радасьці" – ёсьць фрагмэнтам IX Сымфоніі Людвіга ван Бэтховэна. Блакітны сьцяг са сталым лікам 12 зорак з 1955 г. быў сьцягам Рады Эўропы, а з 1986 г. – таксама Эўрапейскіх супольнасьцяў ды Эўрапейскага Зьвязу.

**Пры падрыхтоўцы матар'ялу скарыстанае выданьне Unia Europejska. Informator.**

ІНТЭРВІЮ

# БАЧЫЦЬ СВАЮ БУДУЧЫНЮ

*На пытаньні "МФ" адказвае Зьбігнеў ШЫМАНЬСКІ, дэпутат Сойму Рэспублікі Польшча*

**– Сп. Шыманьскі, ці ў інтарэсах польскай дзяржавы існаваньне суверэннае Беларусі?**

– Канешне. Мы хочам мець сваёй суседкай незалежную Беларусь. Гэта будзе багатая, бясьпечная краіна, добры гандлёвы партнэр. Сапраўды, у нашых інтарэсах, каб Беларусь была такой дзяржавай.

**– Якая найбольш рэальная пэрспэктыва разьвіцьця сытуацыі ў Беларусі?**

– Усё будзе адбывацца так, як і ў іншых краінах, якія выходзілі з камуністычнай сыстэмы. Тое, што зараз здаецца непарушным, непераможным, заўтра можа (і мусіць) разваліцца – так было ў свой час ва ўсёй Усходняй Эўропе, так будзе і ў вас.

Цяперашнія польскія рэфарматары яшчэ, можна сказаць, нядаўна мелі падобныя праблемы: траплялі пад рэпрэсіі, сядзелі ў турмах. А зараз яны маюць уладу ў Польшчы. Так што, зыходзячы з тых працэсаў, якія адбываліся й адбываюцца ў Эўропе, мой адказ цалкам аптымістычны.

**– Вы Старшыня міжпарлямэнцкай польска-беларускай групы. Зь якім з двух беларускіх парлямэнтаў вашая група супрацоўнічае?**

– Да гэтага часу мы сустракаліся з дэпутатамі Вярхоўнага Савету, што былі выбраныя беларускім народам, але якіх не прызнаў Лукашэнка. Менавіта зь імі будзем супрацоўнічаць і надалей. А з прэзыдэнцкім "парлямэнтам" мы ня маем ніякіх стасункаў.

**– І апошняе пытаньне. На вашую думку, што мусяць рабіць маладзёвыя арганізацыі Беларусі для таго, каб зьмяніць становішча ў краіне?**

– Галоўнае – моладзь павінна сама бачыць будучыню Беларусі. Таму зычу вам добрых думак пра будучыню сваёй краіны.

**Гутарыў Аляксей ШЭІН**
***Уладава, Польшча***

ДЗЕЙНАСЬЦЬ

# ДАКУМЭНТЫ, ПРЫНЯТЫЯ II СОЙМАМ МАЛАДОГА ФРОНТУ

**7 лютага адбыўся II Сойм Маладога Фронту. Нягледзячы на ўвесьчасныя перашкоды, што чыніліся ўладамі, у працы зьезду змаглі ўдзельнічаць каля 400 дэлегатаў з усяе краіны.**
**На Сойме была вызначаная стратэгія й тактыка дзейнасьці найбуйнейшага маладзёвага беларускага руху. Таксама зьмененая сыстэма кіраваньня арганізацыяй: сустаршынства саступіла месца пасадзе аднаго старшыні, якім быў абраны Павал Севярынец. Былі абраныя намесьнікі старшыні (10 чалавек) і абноўлены склад Цэнтральнае Рады.**
**Дэлегаты Сойму прынялі дакумэнты, тэксты якіх мы падаем ніжэй.**

## МАНІФЭСТ МАЛАДЫХ

Мы, прадстаўнікі беларускае моладзі, зьвяртаемся да тых, каму не абыякавы лёс Беларусі. Мы заклікаем усіх маладых людзей краіны яднацца пад бел-чырвона-белым сьцягам нацыянальнае ідэі, незалежнасьці й эўрапейскае будучыні.

Сёньня студэнцкая, школьная, працоўная й нефармальная моладзь – гэта найбуйнейшая сацыяльная база нацыянальна-вызвольнага й дэмакратычнага руху, перадавая змаганьня за незалежнасьць Беларусі, правы й свабоды ейных грамадзянаў, за дэмакратычныя перамены. Менавіта моладзь, якой заўтра ў Беларусі жыць, ужо сёньня павінная браць на сябе ільвіную долю адказнасьці за будучыню краіны, станавіцца рашаючай сьвежай сілай у змаганьні за палітычнае, эканамічнае й духоўнае Адраджэньне Беларусі.

Менавіта цяпер, у 1999 г., як і ўвосень 88-га, і ўвесну 96-га й 97-га, моладзь самой ходою падзеяў пакліканая згуртавацца вакол нацыянальнае ідэі й патрабаваньня рэформаў, не зважаючы на разброд у стане палітыкаў старэйшага пакаленьня.

Надыходзіць час маладых!

Беларуская моладзь адзіным фронтам выступае за незалежную Беларусь, інтэграваную ў эўрапейскія структуры, і не дапусьціць паглынаньня сваёй Радзімы сьмяротна хворай крымінальнай імпэрскай Расеяй.

Маладыя – за нацыянальнае Адраджэньне ўва ўсіх сфэрах жыцьця, за Веру, Надзею, Любоў.

Маладыя – за рынкавыя рэформы, перабудову сыстэмы дзяржаўнага кіраваньня й адукацыі, за адкрытае грамадзтва.

Маладыя – гэта новыя йдэі, новыя сілы, энтузіязм і чысьціня памкненьняў.

Маладыя будуць салідарна падтрымліваць усе палітычныя сілы, арганізацыі й лідэраў, якія змагаюцца за незалежнасьць Беларусі й нацыянальную дэмакратыю.

Беларусь – гэта сьвятое!

Моладзь – за Беларусь!

## ЧАС ІНФАРМАЦЫЙНАЙ ІНДУСТРЫІ: ІДЭІ МАЛАДОГА ФРОНТУ

Стагодзьдзе, да заканчэньне якога мы патроху падыходзім, увойдзе ў гісторыю як час, калі быў адкрыты новы, поўны скарбаў неагляднасьці абшар – сьвет інфармацыі. Кампутар быў створаны ў простым памкненьні палегчыць матэматычныя разьлікі, але хутка гэты не такі ўжо й складаны апарат зьмяніў цывілізацыю. Рэч тут ня ў той зручнасьці й унівэрсальнасьці, якія дазваляюць ужываць кампутар ува ўсіх сфэрах чалавечага жыцьця – ад складаных навуковых досьледаў да гульняў і гатаваньня страваў. Папросту кампутар дазволіў усьвядоміць наяўнасьць іншага вымярэньня – прасторы інфармацыі – і стаў інструмэнтам асвойваньня гэтага цудадзейнага сьвету. Пераўтвараюцца, мадэрнізуюцца й абнаўляюцца бізнэс, навука, культура. Газэты й часапісы ўжо ня проста зьмяшчаюць свае электронныя копіі ў Інтэрнэце, але, можна сказаць, стаяць там адной нагой (некаторыя, зрэшты, ужо й двума). У сусьветным інфармацыйным павуціньні пачалі працаваць радыёстанцыі (ужо ня радыё-, але як іх назваць?). Перапаўзае туды й тэлевізія. Гэты новы сьвет спарадзіў ня толькі новыя працоўныя месцы, але й новыя спэцыяльнасьці: web-майстры, праграмісты розных кірункаў, кампутарныя дызайнэры й г.д. Больш таго, утварылася калясальная індустрыя інфармацыі й тэхналёгіі, шчасьлівая спэцыфіка якой палягае ў нізкім спажываньні энэргіі й прыроднае сыравіны. Нафтавыя вежы й залатыя рудні паступова адыходзяць. Цяпер сапраўднае багацьце – інтэлект, тэхналёгія, інфармацыя. Народы, якія ня зьвернуць на гэта пільнейшае ўвагі, будуць змушаныя бытаваць у Трэцім сьвеце другога гатунку.

Мы павінныя гэтага пазьбегнуць.

У новых варунках твар дзяржавы будзе вызначацца ейным уплывам у інфармпрасторы. Веліч народа – сукупнасьцю здабыткаў нацыянальнае культуры, якія будуць даступныя шараговаму вандроўніку па абшарах сусьветнага павуціньня. Такім чынам, мы мусім паклапаціцца пра своечасовую пабудову структураў, прызначаных забясьпечваць інфармацыйнае існаваньне беларускае нацыі.

Найперш, дзяржава павінная ўзяць на сябе клопат забясьпечыць інфармацыйныя плыні адпаведнымі, на колькі магчыма, тэхнічна дасканалымі сродкамі камунікацыяў. Гэта першы натуральны крок – нагэтульні ж важны, як пракладка аўтамагістраляў для тавараабмену, і плёну ён мае прынесьці ня менш. Удасканаленьне камунікацыяў стварае надзвычай спрыяльныя варункі для банкаўскае справы, рэклямнага бізнэсу, адукацыі, СМІ ды ўсіх бяз вынятку галінаў інтэлектуальнае індустрыі. Падобны праект павінны рэалізоўвацца найбольш дастойнымі фірмамі, якія будуць вызначаныя шляхам конкурсу.

Існуе два варыянты: даручыць поўную рэалізацыю адной фірме, што забясьпечвае большы ўзровень стандартызацыі, альбо выпрацаваўшы папярэдне некаторыя стандартовыя межы, ускласьці справу на шэраг арганізацыяў – гэты варыянт, звычайна, гарантуе эканамічна выгаднейшыя ўмовы. Апошняе для нашай краіны падаецца больш прыймальным.

На шляху свайго разьвіцьця беларуская інфармацыйная індустрыя непазьбежна запатрабуе пэўнай уніфікацыі – распрацоўкі ды ўвядзеньня прамысловых і гандлёвых стандартаў. Каб выключыць магчымыя злоўжываньні з гэтага працэсу, трэба стварыць грамадзкі орган з прадстаўнікоў найбольш уплывовых айчынных і замежных фірмаў, спажыўцоў і прадстаўнікоў СМІ, які й будзе займацца выпрацоўкай і ўвядзеньнем патрэбных стандартаў шляхам кампраміснага пагадненьня паміж прадстаўнікамі розных зацікаўленых бакоў пад пільным кантролем прэсы. Роля дзяржавы ў гэтым воргане не павінная выходзіць па-за межы кансультацыйна-назіральніцкай ды ініцыятарскай функцыяў. Дзяржава таксама павінная падтрымліваць гэты орган у стасунках з адпаведнымі структурамі іншых краінаў і міжнароднымі стандартызацыйнымі арганізацыямі.

Немагчыма на роўных увайсьці ў сусьветны інфармацыйны бізнэс не паважаючы прыярытэтных правоў творцы. Абарона аўтарскага права мусіць быць замацаваная заканадаўча й падмацаваная адпаведнымі эканамічнымі мэханізмамі. Тым ня менш, нельга ўхваліць тыя выключна паліцыйныя захады, якімі спрабуюць выкараніць інфармпірацтва дапрыкладу, у Расеі. Трэба зразумець эканамічную нерэальнасьць імгненнага пераходу арганізацыяў, і тым больш прыватных асобаў, на закупку цалкам легальнае прадукцыі, кошты якой, звычайна, у дзясяткі, часам сотні й нават тысячы разоў пераўзыходзяць пірацкія.

Гвалтоўнае разьвязаньне гэтае праблемы прывядзе ўпрост да масавага банкруцтва. Амартызаваць удар можна шляхам кампрамісных дамоваў з найважнейшымі заходнімі інфармпрадуцэнтамі, і, сама галоўнае, праз стымуляваньне дзейнасьці тутэйшых вытворцаў праграмнае ды іншае інфармпрадукцыі, якія (што відавочна) змогуць наладзіць больш танную вытворчасьць.

Пэрспэктывы Беларусі ў інфармпрасторы, паміж усяго іншага, будуць вызначацца ўзроўнем прафэсійнасьці спэцыялістаў. Дзеля таго іхная падрыхтоўка ёсьць высокапрыярытэтнаю задачай.

Абнаўленьне адукацыйнае сыстэмы ў нашай краіне – тэма для асобнае гутаркі,

ШЛЯХ

# ШТО БУДЗЕ ПАСЬЛЯ

## *Моманты ісьціны Маладога Фронту*

Пачатак на стар. 1

пастаянна, і вы самі бачыце прыклады, чуеце, як сьмярдзяць палітычныя трупы. Нашая моц, моц МФ -- у нашае веры, надзеі, любові. У энтузіязме. **Гэта нашая нацыянальная ідэя.**

Другі момант ісьціны зьвязаны з тактыкай дзеяньня. Мне кажуць: "Хлопцы, паболей кансьпірацыі – вы што, не чыталі, як сябе трэба паводзіць, як трэба шушукацца?" Мне кажуць: "Дзейнічайце цішком, каб вас не хапнулі." Мне кажуць: "Падпольна, падкопвайцеся й шчаміце па цёмных кутох!" А я вам кажу – НЕ! Мэтадамі ГБ, мэтадамі рэжыму, подласьцю й падманам – нельга! Гэта супэрпрынцыпова. Хіба вы забыліся, у чым нашая сіла? У тым, што раструбіць прэса, у тым, што пачуе й пабачыць усё грамадзтва. Аксыёма простая: нашая ісьціна, каб стаць відавочнаю, павінна быць ва ўсіх на вачох.

Я заклікаю вас – адкрыта падымайцеся, у поўны рост, дэманстратыўна, упэўнена й ярка. Ня лезьці на ражон, не правакаваць – а дзейнічаць спакойна, з поўным адчуваньнем сваёй моцы, з усьмешкай. Сьмех іх раззбройвае. Гэта самы грозны выклік рэжыму, свайму страху й агульнаму злу. Таму наш лепшы канспіратар – гэта Новы Запавет, гэта Эвангельле. Я цытую:

*– Стойце ў свабодзе, якую даў вам Хрыстос.*

*– Хай вашае "так" будзе сапраўды "так", вашае "не" хай будзе "не", што апроч таго – ад злога.*

*– Будзь чыстым, кажа Бог.*

*– Прасеце, і будзе вам дадзена, шукайце, і знойдзеце, грукайцеся, і адчыняць вам.*

*– Тое, што вы казалі ў цемры, тое пачуеце ў сьвятле, і што гаварылася на вуха ў хаце, тое будзе абвешчана са стрэхаў. Няма нічога тайнага, што ня стане яўным.*

Зараз час перастаць гуляцца ў шпегаў і контравыведнікаў. Час дзейнічаць адкрыта. Час быць героямі.

А каб імі стаць – слухайце трэці момант ісьціны, самы важны. Апошняя цытата з Эвангельля:

*"І ад кожнага, каму дадзена многа, многа й вымагацца будзе, і каму многа даручана, з таго больш зышчыцца. Будзьце ж дасканалымі, як дасканалы сам Гасподзь Бог ваш у нябёсах."*

Напэўна ж, кожны з вас задумваўся: "Ну чаму менавіта я? Чаму гэта я займаюся МФ, палітыкай, адраджэньнем – сярод соцень і тысячаў аднагодкаў, калегаў, суседзяў?" Але так дадзена. Вы – абраныя. Вам прымаць на сябе ўдар. Вам весьці гэтую краіну ў III тысячагодзьдзе.

Кожны з нас – я, ты, ён, яна – павінны ўсьведамляць, што ад таго, як ты будзеш паводзіць сябе, залежыць і ўспрыманьне Адраджэньня, МФ у вашым доме, групе, у вашым мястэчку ўсімі, з кім вы дачыняецеся хоць на сэкунду, хто бачыць вашую значку й чуе нашую мову. Званьне МФаўца абавязвае вас імкнуцца быць дасканалымі. Чыстымі. Справядлівымі. Адкрытымі. Сумленнымі.

Толькі тады вы зможаце дасягнуць сваёй мэты.

**Павал СЕВЯРЫНЕЦ**

ДЗЕЙНАСЬЦЬ

# ДАКУМЭНТЫ, ПРЫНЯТЫЯ II СОЙМАМ МАЛАДОГА ФРОНТУ

але існуе спэцыфічны менавіта для інфармацыйных тэхналёгіяў момант – яны разьвіваюцца й зьмяняюцца з хуткасьцю неверагоднай. Таму бязь інтэсыўнага інфармацыйнага абмену ў гэтай сфэры посьпеху не дамагчыся.

У сувязі з гэтым трэба ўсемагчымымі спосабамі спрыяць навуковым і навучальным установам, фірмам ды арганізацыям, якія будуць займацца апэратыўным перакладам і распаўсюдам спэцыяльнае літаратуры.

Дзеля таго каб

а) зрабіць інфармпрастору больш даступнай паспалітаму беларусу;

б) падвысіць прэстыж беларускае культуры;

в) забясьпечыць пэрспэктывы разьвіцьця й пашырэньня беларушчыны, патрэбна вырашыць дзьве задачы:

– стварыць у сусьветным павуціньні абшар беларускай інфармацыі. Гэтай мэце можа служыць як рэалізацыя культурніцкіх праектаў – стварэньне сайтаў прысьвечаных беларускім запаведнікам, музэям, замкам, музыцы, імпрэзам і г.д. (што сярод іншага, зробіць станоўчы ўплыў на разьвіцьцё турыстычнага бізнэсу ў Беларусі), гэтак і простае спрыяньне арганізацыям і грамадзянам, якія захочуць быць прадстаўленыя ў Інтэрнэце.

– стварыць для інфармацыйнага сьвету беларускі й беларускамоўны look and feel, інтэрфэйс – зьдзейсьніць, так бы мовіць, віртуальную беларусьфікацыю сусьветнай інфармпрасторы. Дзеля гэтага паспрыяць утварэньню сеткі беларускамоўных інфармацыйных сэрвісаў (пошукавыя службы, збор навінаў, інфармацыя пра надвор'е і г.д.). Пераканаць найбуйнейшых правайдэраў інфармацыйных паслугаў у выгоднасьці й пэрспэктыўнасьці стварэньня беларускіх аддзелаў і службаў.

Важным момантам гэтае праграмы ёсьць тое, што большыня яе пунктаў можа (і павінная) быць урэчаўлёная пры мінімальным удзеле дзяржавы, якае выступае ў якасьці ініцыятара й аказвае першапачатковую падтрымку, а ўтвораныя ў працэсе рэалізацыі структуры маюць ня толькі стацца аўтаномнымі ды самазабесьпячальнымі, але й зь цягам часу пачнуць прыносіць непасрэдны, практычна адчувальны плён.

Рэалізацыя гэтай праграмы можа вывесьці нашую краіну ў шэраг сусьветных лідэраў інфармацыйнага бізнэсу. І гэта сапраўды магчыма, бо Беларусь — дзяржава звышвысокага патэнцыялу ў галіне інфармацыйных тэхналёгіяў, аднаго з найбольшых на абшару бадай што ўсяе Эўропы. Яшчэ за часамі СССР Беларусь вызначалася як рэспубліка з найбольш значнаю доляй высокаадукаванага насельніцтва. Не ў апошнюю чаргу дзякуючы высокай колькасьці спэцыялістаў-электроншчыкаў і праграмістаў. Нашая краіна забясьпечвала кваліфікаванымі кадрамі стратэгічныя вытворчасьці й дасьледваньні: НДІСА (Навукова-Дасьледніцкі Інстытут Савецкай Арміі), завод імя Арджанікідзэ, "Інтэграл", Інстытут кібэрнэтыкі — гэта толькі буйнейшыя такога кшталту ўстановы Менску. Падрыхтоўка кадраў наладжаная трыма ВНУ: Радыётэхнічным інстытутам (цяпер Белдзяржунівэрсытэт Інфарматыкі й Радыёэлектронікі), Політэхнічным інстытутам (цяпер Акадэмія) і БДУ. Нашыя спэцыялісты ўдзельнічалі ўва ўсіх найважнейшых навукова-тэхнічных праграмах у Навасібірску, Маскве, Кіеве. Ня дзіва, што й нефармальнае кампутарнае асяродзьдзе склалася ў Менску даволі рана (старыя хакеры сьцьвярджаюць, што ў часе мы саступілі толькі Кіеву), і заўсёды вызначалася рэдкім прафэсіяналізмам. Нядрэнна ўсталявалася й нябачная прамысловасьць самаробных кампутараў.

Няма сумневу, што яшчэ толькі пачынаючы свае ўваходжаньне ў інфармацыйны бізнэс, мы ўжо маем большыя ад іншых краінаў шанцы на посьпех.

Варта іх не змарнаваць.

## ДОШКА АБВЕСТАК



## Хочаш слухаць сваё? Звані і патрабуй!

Кожны другі дзень месяца "Наша Ніва" й іншыя арганізацыі праводзяць "Дзень без чужога слова". Беларуская Музычная Альтэрнатыва выступіла зь ініцыятывай правядзеньня "Дня без чужой музыкі", які, спадзяемся, перарасьце ў "Ні дня без беларускай музыкі".

Ці часта можна пачуць у радыёэтэры айчынную музыку? Правільна, практычна немагчыма. Але ў гэтым ёсьць і нашая з вамі віна, бо не зьвяртаемся да радыёстанцыяў з замовамі беларускае музыкі. Ніжэй мы падаем табліцу, у якой вы знойдзеце інфармацыю дзе, калі й як можна рабіць заяўкі. Лепш заказваць "Краму", "Крыві", "Нейро дюбель", "Новае Неба", "Палац", "Песьнярок" – па вашых зьвестках гэтыя гурты перадалі свае запісы на ўсе радыёстанцыі. У бліжэйшы час FM-станцыі атрымаюць падарунак ад БМА ў выглядзе CD "Слухай сваё": "NRM", "EXIST", "Уліс", "Склеп", "Крыві", "DEVIATION", "Крама", "Камэлот", "ZNICH", В. Шалкевіч, "Кардон", А. Мельнікаў, Ален, "Мясцовы час", "Новае Неба", "NEWCOSMOPOLIS", "Zygimont VAZA".

Такім чынам, не адкладвай! За справу!

| Радыёстанцыя | Форма заяўкі | Час выкананьня заяўкі |
| --- | --- | --- |
| "Рокс" | факс (017) 2134013, Старажоўская, 8а | "Мінімьюзыкбокс" – штогадзінна на працягу дня "Максымьюзыкбокс" – нядзеля з 19.00 да 21.00 |
| "Бі Эй" | тэл. (017) 2100901, Менск 220034, Чапаева, 5 | штодзень з 22.00 |
| 1-я праграма радыё | тэл. (017) 2844753, Менск, Чырвоная, 4 | праграма "Ура" штопятніцы 22.00 |
| "Мір" | тэл. (017) 2848811, Менск 220029, Камуністычная, 6 | зважаючы на паступленьне замоваў |
| "Сталіца" | тэл. (017) 2100367, Менск 220034, Захарава, 42 | зважаючы на паступленьне замоваў |

### БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА РАСПАЧАЛА СТВАРЭНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА МУЗЫЧНАГА КАЛЕНДАРА.

Мы плянуем правесьці анкетаваньне ў галіне разнастайных музычных кірункаў (беларускія рок-гурты, барды, клясычныя выканаўцы і г.д.). Будзе зьбірацца падрабязная інфармацыя, якая тычыцца як непасрэдна самых удзельнікаў апытаньня (даты нараджэньня), так і зьвестак аб дзейнасьці калектываў (выхады альбомаў, канцэрты ды інш.).

**Анкеты можна атрымаць на адрасе: 220085, Менск. а/с 5.**

Стварэньне Беларускага Музычнага Календара – гэта адзін з этапаў узьнікненьня Беларускай Музычнай Энцыклапэдыі.

**• Набуду 1-ы том Беларускай Энцыкляпэдыі, 3-і том Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі, 2-і выпуск факсымільнага выданьня "Нашай Нівы". Тэл. (з 10⁰⁰ да 15⁰⁰) 227-78-66, Аляксей.**

**• Відэафільм "Пяты элемэнт" (ЗША, фантастыка, 1998) – пабеларуску! На касэце – 650 тыс. рублёў, запіс – 315 тыс. рублёў. Грошы, ці грошы з касэтай + 50 тыс. (перасылка) – на адрас: 220107, а/с 150, Станішэўскаму Віталю. Пазначыць зваротны адрас. Тэл. (017) 2407801**

**• Набуду слоўнікі і падручнікі латыскае мовы. Тэл. прац. 276-94-68, Аляксей.**

**КУПОН** прыватнай абвесткі

**Вялікая просьба запаўняць разборлівым почыркам (не больш за 30 словаў)**

бясплатна

**МАЛАДЫ ФРОНТ**
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Заснавальнік і выдавец МАЛАДЫ ФРОНТ.

РЭДАКТАР: Аляксей ШЭІН

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Павал СЕВЯРЫНЕЦ, Вольга АНЦЫПОВІЧ, Сяржук ПАЎЛЕНКА, Алесь АСІПЦОЎ, Аляксей ЧАРНЯЕЎ.

ПАШТОВАЯ АДРЭСА: Менск, вул. Варвашэні, 8. "Для Маладога Фронту"

НАБОР: Сяргей МІХАЛЬЧУК

МАКЕТАВАНЬНЕ: Аляксей ЧАРНЯЕЎ